Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 13 (65) | Вільня, 7-га чэрвеня 1935 г. | Год 3-ці.

## Сучаснасьць і будучыня Беларусі.

IX.

### Аўтономія Заходняй Беларусі.

Справа тэрытарыяльнае аўтономіі для земляў Заходняе Беларусі зьяўляецца аднолькава важнай і для беларусаў і для Польскае Дзяржавы, бо-ж гэная справа становіць інтэгральную частку пытаньня так зв. славянскіх меншасьцяў, ад таго ці іншага вырашэньня каторага залежыць, можна сказаць, будучыня й Польшчы.

Ужо сам факт, што ўздоўж усяе сучаснае ўсходняе граніцы паложаны землі, заселеныя пераважна элемэнтам няпольскім, ставяць Дзяржаву перад вельмі трудным заданьнем пагадзіць і дапасаваць нацыянальныя імкненьні гэтага ня-польскага элемэнту да агульных інтарэсаў Дзяржавы.

Беларусаў, як ведама, афіцыяльная польская статыстыка налічвае ў межах Польшчы каля $1^1/_2$ мільёна, але калі прымем пад увагу, што дадзеныя гэтыя залежаць ня толькі ад ступені нацыянальнай сьвядомасьці й культурнага роўню, а так-жа ў значнай меры й ад дабрасовеснасьці перапісчыкаў, то лічбу гэную прыдзецца падвоіць.

Ня менш труднасьці будзем мець і з вызначэньнем беларускай этнографічнай тэрыторыі ў межах Польшчы.

Спробы такога выдзяленьня, робленыя ў свяім часе як з боку беларускага (Смоліч), так і польскага (Крысінскі) не далі об'ектыўных рэзультатаў: бо-ж залічваньне ўсяе Беласточчыны ці Лапаў і Ломжы да Заходняе Беларусі з аднаго боку, а разважаньні над польскасьцяй Дзісьненьшчыны, Навагрудчыны ці Палесься з другога—выклікаюць зусім слушныя пратэсты і ў адных і ў другіх. Нявыразны этнографічны падзел, як ведама, стварае заўсёды нерэальны грунт ды вядзе да заваструньня апэтыту ў абодвых бакоў.

З гэтага відаць, што самае азначэньне падставаў, на каторых павінны быць пабудаваны польска-беларускія суадносіны ў Заходняй Беларусі, выклікае шмат труднасьцяй.

Вось дзеля чаго перш чымсь пяройдзем да разважаньня над пытаньнем аб зьмене форм, у якіх разьвіваецца ў Польшчы справа беларуская, змушаны будзем крыху затрымацца над ненармальнасьцямі сучаснага палажэньня, датуючагася ад 1921 г., а якое стварылі: няўдалы падзел Беларусі, аграрная палітыка пабудаваная на асадніцтве, школьная — на полёнізацыі, а адміністрацыйная—на цэнтралізацыі ўлады ды сыстэматычным аслабляньні беларускіх організацыяў.

Есьць ведама, што ўсюды організацыя дзяржавы на нацыянальным прынцыпе (пры неадналітым нацыянальным складзе) пераважна вядзе да ўнутраных ці нават вонкавых непаразуменьняў. Тым болей небясьпечны гэты прынцып для Польшчы, якая мае ў сваім складзе аж $^1/_3$ іншых народаў.

Організацыя дзяржавы на ўспомненым нацыянальным прынцыпе вядзе ў першую чаргу да **аслабленьня культурнага ўплыву дзяржавы на насельніцтва.**

На асаблівую ўвагу заслугоўвае тут перадусім справа школьніцтва. Ужываньне ў школе ня роднай, а дзяржаўнай мовы стварае вялікія труднасьці пры пачатковым навучаньні, усюды й заўсёды выклікае аслабленьне культурнага разьвіцьця моладзі, паўторны анальфабэтызм і г. п. зьявішчы, на каторыя так часта наракаюць вучыцялі.

Адзначыць таксама трэба і справу „абшарніцтва", якая занадта штучна падтрымліваецца з увагі на яе паходжаньне са шкодаю для найэлемэнтарнейшых патрэбаў вёскі. Такая-ж, фактычна, палітыка праводзіцца і ў адносінах да асадніцтва, дзе часта вядзецца беспатрэбная й каштоўная работа для мэтаў выключна нацыяналістычных, ды трактуецца й да таго адсталыя й агалочаныя „крэсы", як калёнізацыйныя землі без дастатачнае да гэтага эканамічнае падставы.

Урэшце да **найгалаўнейшае балячкі** сучаснае сыстэмы трэба залічыць **мінімальны удзел беларускага грамадзянства ў дзяржаўным жыцьці, ды абсолютная адсутнасьць беларускага прадстаўніцтва** ці то ў парляманце, ці то ў форме нейкае грамадскае організацыі.

Апошняе зьявішча нашыя недалёкія палітыкі часта ўважаюць за карыснае для Дзяржавы, а па сутнасьці яно толькі служыць перашкодаю для вычуцьця сапраўдных—беларуска-грамадзкіх настрояў. Для ацэнкі гэтых настрояў застаецца такім чынам толькі адна адзіная мэтода—адміністрацыйная інфармацыя, каторая, як ведама, заўсёды бывае вельмі й вельмі няточная.

**Які-ж выхад?** Пазбыцца ўсіх гэтых ад'емных бакоў сучаснага палажэньня немагчыма без рашучае зьмены прынцыповага падыходу да сутнасьці дзяржавы й жаданьняў ды імкненьняў беларускага народу.

У першую чаргу значыць трэба зьмяніць сам погляд на дзяржаву, каторая павінна служыць не для здавальненьня народнага эгоізму, а для культурна-эканамічнага разьвіцьця усіх нацыянальнасьцяй, каторыя, будучы злучаны ў адным дзяржаўным організме ды маючы аднолькавыя эканамічныя інтарэсы, павінны мець і аднолькавыя культурныя варункі і магчымасьці.

У рамах такое дзяржавы, галоўным заданьнем каторае было-б разьвіцьцё ўсякіх культурна-творчых сілаў кожнае нацыянальнасьці, можна было-б спробаваць направіць тыя крыўды, якія зроблены Беларусам.

І дзеля гэтага трэба прынесьці зусім за рацыянальны праект **аўтономіі Заходняе Беларусі,** які апошнімі часамі даволі часта парушаецца на старонках „Роднага Краю" пэўнаю часткаю беларускага грамадзянства, бо-ж толькі такім шляхам удалося-б зьмяніць сучасную сыстэму кіраваньня дзяржаўна-грамадзкім жыцьцём гэтага краю.

Праектаваная аўтономія Заходняй Беларусі павінна была-б быць зорганізавана на наступных галоўных асновах:

1) З увагі на мяшаны этнографічны характар Заходняе Беларусі, тэрыторыю яе можна было-б акрэсьліць прыблізна ў такіх граніцах: Віленскае ваяводзтва, Навагрудзкае, Палескае ды часьць Беластоцкага разам з Беластокам, як прамысловым цэнтрам гэтага краю. Такая развязка гэтага пытаньня пазволіла-б пагадзіць культурна-дзяржаўныя імкненьні Беларусаў з інтарэсамі так званых „крэсовых" палякаў, якія пахваліцца могуць на гэтых землях і традыцыяй сваёй культуры і такім культурным цэнтрам як Вільня.

2) Азначаная тэрыторыя павінна была-б складаць асобную аўтономную адміністрацыйную адзінку, на манер Верхняе Сілезіі (Górny Śląsk), **з краёвым Соймам і адпаведнымі адміністрацыйнымі ўладамі.** На чале паасобных ваяводзтваў стаялі-б ваяводы, у паветах старосты. Неабходнай также была-б організацыя Краёвага Камісарыяту Народнае Асьветы. Кі-

## Сэрца Маршалка ў Вострай Браме.

**Вільня,** 1. VI. г. г. Раніца. Ціхае, бязхмарнае неба, поўнае шчабятаньня птушак і паху разьцьвіўшых садоў. Вуліцы, звычайна ў гэты час пустыя, неяк дзіўна ажыўлены. Асабліва шмат школьнай моладзі, якая паважна і ціха ў радох ідзе на станцыю. Мінаюць Вострую Браму, нявыразную яшчэ ў ранічнай імгле. Перад цудоўным абразом лёгка зіхацеюць сьвечкі; цёплы іх сьвет адбіваецца ў цяжкой залочанай раме, з каторай цёмна і нярухома паглядае ўніз Маці Божая.

Шостая гадзіна апошняй майскай раніцы. На пляцу перад станцыяй натаўп. Па яго бакох і ўздоўж вуліцаў стаяць радамі салдаты віленскага гарнізону. Яны разам з паліцыяй сачаць за парадкам. Ня ўсіх пушчаюць на станцыю, трэба мець асобы пропуск.

А сёмай гадзіне зашумелі матары аўтомабіляў — прыбываюць прадстаўнікі вайсковых, цывільных, палітычных і грамадзкіх арганізацыяў. Праз 20 мінут прыходзіць варшаўскі цягнік. Усе вочы скіроўваюцца на апошні вагон, спавіты чорнай крэпаю. З салёнвагона выходзяць апраненыя ў глыбокай жалобе ўдава Маршалка з дочкамі. За імі сьледуюць прадстаўнікі ўраду і генэралітэту.

Урну нясуць палкоўнікі: Бэстэк, Філіхоўскі, Пэлчыньскі і Ставаж. Уся дарога ад станцыі да Вострай Брамы пасыпана пяском, зялёнымі галінамі, акацыяй і палявымі краскамі. Жалезнадарожны насып, балконы, стрэхі — запоўнены віленчукамі. У вокнах выстаўлены партрэты Маршалка з крэпаю і гараць сьвечкі. Чым бліжэй да Вострай Брамы, тым больш жалобных сьцягоў. У самай Вострай Браме гараць урны з сымбалічным агнём—„зьнічам".

Урна з сэрцам пакойнага Маршалка ўносіцца ў Вострабрамскую капліцу. Арганы іграюць „рэквіем". Каля урны ганаровая варта. Пад сумны перазвон пачынаецца Заўпакойнае Багаслужэньне, пасьля скончэньня якога урну ўносяць у капліцу сьв. Тэрэзы. Тут, пад загадам праф. Ястшэмскага, урну заумуроўваюць у другую нішу направа ад уваходу. На варце стаяць афіцэры і падафіцэры.

Урна з сэрцам Маршалка будзе толькі часова знаходзіцца ў касьцёле сьв. Тэрэзы. Вечны пакой знойдзе сэрца Павадыра побач з Яго маткай, — труна якой перавезена з Літвы ў Вільню і таксама часова пастаўлена ў падзямельлях касьцёла сьв. Тэрэзы,—у спэцыяльна пабудаваным на Россах маўзалею, сярод магілаў абаронцаў Вільні.

раўнікамі, або іх заступнікамі ў гэтых дзяржаўных установах павінны быць беларусы і палякі ў перамешку, г. зн. калі кіраўнік-паляк, то ягоны заступнік павінен быць **толькі беларус** і наадварот,

3. Культурная аўтономія палягала-б на зраўнаньні ў правох моваў — беларускае і польсхае ў-ва ўсіх галінах грамадзкага і дзяржаўнага жыцьця без усякіх прывілеяў для таго ці іншага боку.

На заканчэньне ‘шчэ трэба падкрэсьліць, што ня толькі **апрацаваньне, а нават дыскусіі над формамі аўтономіі Беларусі павінны адбывацца пры як найбольшым удзеле беларускага грамадзянства.**

## У справе мітр. Інтэрнату.

У сакавіку г. г. зацьверджаны статут Праваслаўнага Мітрапалітальнага Інтэрнату ў Варшаве, заданьнем якога мае быць „... выхаваць добрых грамадзян Рэспублікі і карысных сяброў грамадзянства... стварыць кадры праваслаўнай моладзі, належна прыспасобленай у духовым, маральным і інтэлектуальным сэнсе... запэўніць кандыдатам у дохоўны стан адпаведныя выхаваўчыя варункі, паглыбляць іх прызваньне да духоўнага стану і т. п.“.

Тэорэтычна думка ўтварэньня такога інтэрнату можа і добрая, але практычна яна ня вытрымоўвае найменшай крытыкі. Відаць арганізатары інтэрнату, або абсалютна ня ор‘ентуюцца ў праваслаўных справах—у тым, што 90% праваслаўнага насельніцтва Польшчы гэта беларусы і ўкраінцы, або, ведаючы аб гэтым, праводзяць нейкую „мудрую“ палітыку, аб карысьці каторай гаварыць ня прыходзіцца.

Трэба памятаваць, што плата за пражыцьцё ў інтэрнаце выносіць аж 500 зл. у год. Дадаўшы да яе яшчэ плату за навуку, кошты падарожа ў Варшаву і назад, то станецца ясным, што для дзяцей работнікаў і сялян, для дзяцей псаломшчыкаў, дзіяканаў і багата-сямейных вясковых сьвяшчэньнікаў дзьверы інтэрнату зачынены. Трапяць такім чынам туды толькі дзеці упрывілеяваных, займаючых сяньня найлепшыя пасады, „русскихъ батюшекъ“, дзеці расейскіх эмігрантаў, розных расейскіх домаўласьнікаў і эмэрытаў.

Хай сабе інтэрнат выхавае гэтых людзей на ультрадобрых грамадзян Рэспублікі, усёроўна ніякай карысьці яны прынесьці ня змогуць. Ані беларуская, ані украінская люднасьць сьвяшчэньніка-расейца ня прымець. Ён будзе чужым для нас беларусоў, а мы для яго. Беларускасьць будзе рэзаць яго „русское“ вуха. Ня зможа ён быць добрым пастырам, бо любоў да сіня-чырвона-белага сьцягу будзе яму перашкодай. Пашыраючы слова Божае сьвяшчэньнік такі канчальна вёску занархізуе і прынясе Царкве і Дзяржаве замест карысьці толькі шкоду. Сумна будзе выглядаць ідэя беларуска-польскага сужыцьця, пашыраная такім „добрым грамадзянінам Рэспублікі“.

Ня сумліваюсь, што грамадзянін Шантэр, які забіраў голас у „Віленскім Кур‘еры“ у справе школьніцтва, таксама добры грамадзянін Рэспублікі, аднак выказаў, далікатна гаворучы, такую ігноранцыю, аб якой цяжка падумаць. Цяпер-жа прыбудзе цэлы рад падобных „добрых грамадзян“ і ў царкоўных справах, ад якіх барані Божа нашыя землі. *X—i.*

## Сусьветная вайна ў лічбах.

Вялікія гістарычныя падзеі, асабліва сусьветнага характару, ня хутка належна ацэніваюцца шырэйшымі коламі грамадзянства, якія ня маюць доступу да іх крыніц. Дадзеныя аб гэтых падзеях трапляюць у асобыя архівы пасьля цэлагу раду гадоў і толькі тады можна прыступіць да іх гістарычна-сытэнтычнага разгляду.

Цікавыя лічбовыя дадзеныя падае Брокхаўзэн.

Як ведама, уся Эўропа падзелілася 1914 г. на два абозы: 1) *блёк цэнтральных дзяржаваў* і 2) *вялікую коаліцыю*, да якіх пазьней далучыліся і паза-эўрапэйскія дзяржавы.

Цэнтральныя дзяржавы выставілі 24.250.000 салдатаў, у тым ліку:

| | |
|---|---|
| Нямеччына | 13.250.000 |
| Аўстра-Вэнгрыя | 9.000.000 |
| Турцыя | 1.600.000 |
| Баўгарыя | 400.000 |

Коаліцыя (разам з калёніямі калёніяльных дзяржаваў)—45.624.000 салдатаў, у тым ліку:

| | |
|---|---|
| Францыя | 7.900.000 |
| Англія | 5.700.000 |
| Расея | 15.000.000 |
| Сэрбія (пры 3 мільёнах жыхароў у 1914 г.) *) | 1.000.000 |
| U.S A (Злуч. Штаты Паўн. Амэрыкі) | 4.273.000 |
| Бэльгія | 365.000 |
| Румынія | 1.000.000 |
| Італія | 5.615.000 |
| Грэцыя | 364.000 |
| Португалія | 100.000 |
| Японія | 800.000 |
| Аўстралія | 413.000 |
| Індыя | 1.440.000 |
| Канада | 629.000 |
| Новая Зэляндыя | 129.000 |
| Паўдз. Афрык. Унія | 136.000 |
| Інш. ангельск. калёніі | 185.000 |
| Паўночная Афрыка | 260.000 |
| Іншыя франц. калёніі | 265.000 |
| Монтэ Нэгро | 50.000 |

Палякаў служыла ў нямецкай арміі 1 мільён, у аўстрыяцкай 700 тысяч і расейскай 500 тысяч. Аб беларусах нічога дакладнага ня ведама, бо расейцы не падавалі беларускай нацыянальнасьці.

Агульная колькасьць забітых (ня лічацы памёршых ад ран) у сусьветнай вайне выносіла каля 8.698.000 асоб.

*) Няйвялікшую армію ў параўнаньні з лікам жыхароў выставіла Сэрбія: кожны трэці грамадзянін быў салдатам. У арміі служыла каля 12.6% кабет. У часе вайны згінула 1/5 частка ўсяго насельніцтва.

Вельмі цікава прадстаўляецца процантова сьмяротнасьць і колькасьць раненых у некаторых арміях:

| | забітых | раненых |
|---|---|---|
| Нямеччына | 13,5% | 4.248.000 |
| Аўстра-Вэнгр. | 15% | 2.000.000 |
| Францыя | 15,6% | 3.110.000 |
| Англія | 14% | 1.690.000 |
| Сэрбія | 36% | 147.000 |
| Расея | 11,3% | ? |

Сэкрэты сусьветнай вайны, якая і цяпер фрагмэнтарычна жыве ў памяці старэйшага і сярэдняга пакаленьня, яшчэ і сяньня ня ўсе з тых ці іншых прычын ведамы. Але прыйдзе бязумоўна час і мы пачуем ня раз яшчэ аб розных загадках і фактах гэтага найвялікшага, жудаснага змаганьня людзкасьці ад пачатку сьвету. *Мэл.*

## У СССР налічваецца 7000 стогадовых людзей.

Здараецца, што людзі дажываюць да нязвычайна доўгага веку. Гэтак, напр., у Англіі селянін Тамаш Парра пражыў 152 гады; на Каўказе, ў ауле Бэзэнгі жанчына Хлаева Алтык жыла 143 гады. Нядаўна памёр таксама на Каўказе Хенара Хнут, маючы 154 гады. Гэта ўсё рэдкія выпадкі.

А на пытаньне: ці шмат людзей дажывае да 100 гадоў—стараецца адказаць праф. Фрэнкель, статыстычныя дасьледжваньні якога падае «Советская Врачебная Газета».

Паводле сьпісу жыхароў, налічвалася людзей, меўшых больш 100 гадоў: у Даніі 16 чалавек, у Бельгіі 18, у Нарвэгіі 35, у Нямеччыне 86, у Вэнгрыі 103 і ў Італіі 256.

Японія налічвае 13.735 стогадовых людзей, або 242 чалавекі на мільён жыхароў. Яшчэ больш доўгавечных у Баўгарыі, дзе занатована 1756 чалавек, перавысіўшых сто гадоў веку, або 320 душ на 1 мільён жыхароў.

Баўгарыю наагул лічылі краінай доўгавечнасьці. Праф. Мечнікаў рабіў вядомыя дасьледжваньні над уплываньнем на доўгавечнасьць «баўгарскіх бацыльляў»,

## Маленькі фэльетон.

### Якая птушка—такая й песьня.

— „*Смутнэй научыцельцэ ку поцешэню*“—чытаю ў газэце „Kurjer Wileński“ за 9 чысло месяца траўня с. г.

Дыскусійны артыкул нейкага п. Ст. Шантэра.

Чаго толькі ня кажа п. Шантэр, каб уцешыць вясковую вучыцельку, расказаўшую 5 красавіка сёл. году ў тым самым „Кур‘еры“ пра сваю бяду: вучыцелька ніяк ня можа асягнуць курсу польскае мовы дый усяго школьнага курсу з беларускімі дзяцьмі свае школы.

Пан Ст. Шантэр пацяшае, што гэта рэч ня так ужо й важная. Прыводзіць нават, як умее, цытату, „зачэрпнутую з жыцьця“:

— „*Якая там школа, калі вучуць у ёй павясковаму! Мой сын і так добра ўмеець гаварыць і згаварыцца з пастухамі пры каровах*“...

Гэта, бачыце, ды шмат што яшчэ выдумаў, ці чуў ад нейкага дурнога беларускага мужыка, ці яшчэ дурнейшай бабы п. Шантэр на тэму аб беларускай школе для беларускіх дзяцей.

Пазволю сабе расказаць пра нешта крыху падобнае, а мо‘ і непадобнае зусім, але здаецца ўсё-ж такі цікавае.

Канец 1920 году. Я, ў шэрай ваяцкай вопратцы, закінуты быў у адзін з вялікіх польскіх гарадоў далёка ад Беларусі. Адвялі мне зарэквіраваны пакой у багатага жыда-прамыслоўца, які з гордасьцю казаў аб сваім горадзе:

— Польскі Манчэстэр!

Калі раніцай я зайшоў на кухню, каб памыць твар, дык сконстатаваў, што ў жыда служыць солідная Мар‘яна гадоў так пад 40. Зірк на сьцяну... А на ёй партрэт...

Чый?...

Мікалая Другога з усёю яго царскаю бліскучаю дружынаю: царыца, дочкі, сын.

— І не абрыдне вам гэты абразок, панна Мар‘яна?—кажу служанцы.

А яна, калі ўздыхне глыбока, калі ўзлуецца, ну проста хоць ты з кухні ўцякай ды нямытым хадзі.

— *Гзэх то мувіць, пане поруцніку!* — накінулася на мяне Мар‘яна,—*псэцез то был цэсаз... зацны цловек!... За него і я, бедна слузонца, зыце мялам файнэ... танё было всыстко... не брак было працы для каздэго...*

Аб безрабоцьці нашых дзён ня чуваць было тады (не пры цару, значацца, а ў 1920 г.) нават і ў Польскім Манчэстры з яго сотнямі тысяч пролетарыяту.

Я прамаўчаў на ўсе Мар‘яніны рэзоны, бо добра ведаў, што кожны народ мае ідыётаў.

І калі цяпер п. Шантэр, цешачы польскую вучыцельку, — якая ня можа даць сабе рады з беларускімі дзяцьмі ў польскай школе,—кажа далей, што *нармальныя* беларусы — (мусі тыпу тае Мар‘яны?) — *вызваленьне з свайго парыяснага палажэньня і галіты бачаць у польскай культуры, да якой вельмі горнуца,* — калі гэтак кажа п. Шантэр,—дык жыва прыпамінаецца мне польска-манчэстэрская Мар‘яна, што так гарнулася да... царскага партрэту.

Не яна гарнулася, а яе гарнулі. Нагарнулі так, што яна і ў адроджанай Польшчы не магла з ім разьвітацца:

Вешала царскі партрэт, небарака, ў кухні сваіх хлебадаўцаў, а можа нават і малітву за растрэленых бальшавікамі дачок царскіх перад сном гаварыла?

Ня ведаю гэтага... ня бачыў.

Мар‘яна—гэта яшчэ ня ўвесь польскі народ, нават і ня ўсе польскія служанкі. Як пан Шантэр—не беларускі народ і не „*вялізарная большасьць беларускіх інтэлігентаў*“, ад імя якіх, — нікім не ўпаважнены,—ён цьвердзіць, у адным месцы свайго артыкулу, быццам яны думаюць „*тымі самымі катэгорыямі, што і ён*“.

Запраўды робіцца весела (хай засьмяецца на здароўе і чэсная, адважная вучыцелька!), калі пан Шантэр выпальвае:

— Сам я беларус...

Але ён, бачыце „выразна чуе сваю пляменную (szczepową) асобнасьць“, аднак неяк ня хочацца яму „пісаць“ пабеларуску або „студыяваць“ беларускую культуру. Ен выбірае культуру... „г. зв. польскую, бо там ёсьць больш беларускасьці, як у сяньняшняй беларускай культуры—бо польскую культуру будавалі найвялікшыя беларусы“...—піша п. Шантэр.

— *Былбым марным бялорусінэм,*—уздыхае ён далей, — калі-б для „Сымона Музыкі“, „Смыка“ ці „Дудкі“ адрокся ад „Пана Тадэуша“, „Дзядув“ ці „Яна Дэмборога“...

Магу прызнацца п. Шантэру, што я дык напэўна быў-бы яшчэ *марнейшым* беларусам, каб, застыўшы на „Смыку“, „Дзядах“ ці „Яне Дэмборогу“, не стараўся пазнаёміцца, напр., з гэткімі творамі, як „Нана“, „Фауст“, „Кво вадіс“, „Будаўнік Сольнэс“, „Хацінка дзядзькі Тома“ і г. д., са шмат якімі творамі, дзе востра асуджана крыўда і выказана вечная чалавечая туга па праўдзе і справядлівасьці.

Тут—справа смаку. І з гэтым нічога не парадзіш.

Дык чаму не дапусьціць, што беларус можа ў будучыні мець поўную магчымасьць знаёміцца з вялікімі скарбамі сусьветнае літэратуры на сваёй роднай мове, так сама, як гэта ўжо можа рабіць сягоньня кожны культурны паляк?

Але п. Шантэр гэтага хіба не адважыцца дапусьціць. „Ян Дэмборог“ і „Пан Тадэуш“ гэтак цягне яго, небараку, „з тутэйшага ды ў палякі“, — як казаў Мацей Бурачок, — што тут ужо ніякага лякарства шукаць ня прыходзіцца.

А проект для вырашэньня школьнае проблемы ў адносінах да беларускіх дзяцей у п. Шантэра вельмі просты. Ён піша: „...дзіця ня можа вучыцца на вёсцы—пры яе сяньняшнім стане—ў сяньняшніх варунках“... Яно, бачыце, і „бульбу скрабе“, і „нямытым ходзіць ад нараджэньня“, і „найгоршую порцыю стравы атрымлівае, якая застаецца ад палудня ўпрывілеяваных дарослых, што прадукцыйней за яго працуюць“... Яно — *дзецко хлопске* дый годзі! Што тут больш казаць.

Якая-ж рада ў п. Шантэра на ўсё гэта?

— „Дзяржава павінна зьлітавацца,—рашуча радзіць ён, — над гэтымі, вечна крыўджанымі дзяцьмі“... Трэба... „*забіраць іх ад бацькоў і ўзгадоўваць у спэцыяльных школьных лягерах да 14-цёх гадоў*“...

Ну, але хіба што ўжо годзі! Сам турак „мудрэй“ ня прыдумаў-бы. Хоць, як ведама, туркі ў свой час адбіралі ад бацькоў славянскія дзеці, узгадоўвалі з іх янычараў—найстрашнейшых галаварэзаў для тых-жа славян. Спосаб стары; ніякай новай плянэты пан Шантэр не адкрывае.

Але што гаварыць аб усёй яго „пэдагогічнай“ пісаніне?

Народ наш даўно зложыў аб падобных панкох мудрую прыказку: „Якая птушка — такая й песьня!“ *Звончык.*

што знаходзяцца ў кіслым баўгарскім малаку. Спажываючы гэтае малако, якое завецца „югурт“, баўгары ўводзяць у свой арганізм масу бацыльляў „доўгавечнасьці“, што ачышчаюць чалавечае нутро ад розных шкодных бактэрыяў.

Аднак гэта слаўная даўгавечнасьць людзей у Баўгарыі ня зусім згодна з праўдаю, бо аказалася, што пры сьпісаваньні жыхароў век старых людзей „закруглялі“ да 10—20 гадоў.

Прафэсар Фрэнкель цьвердзіць, што больш дакладны аналіз прыраўняў-бы часьціню стогадовых у Баўгарыі з часьцінёю іх у іншых эўропэйскіх краінах, у якіх сьпіс вельмі блізкі да поўнае дакладнасьці, як Швайцарыя, Нарвэгія, Англія, Нямеччына і інш., г. знач. ад 0,6 да 5 чалавек на кожны мільён жыхароў.

У сваёй працы прафэсар Фрэнкель падае таксама і рэзультаты вывучэньня фізычных якасьцяў стогадовых людзей. Аказалася, што з 85 стогадовых баўгараў 34 захавалі працаздольнасьць, а з 73 баўгарак працаздольнымі былі 33. Добра бачыла, чула і захавала памяць большая палавіна старых людзей, абсьледаваных у Баўгарыі. 64 з 85 абсьледаваных старыкоў не хварэлі ніколі якімі-небудзь цяжкімі хваробамі.

А што датычыць Савецкага Саюзу, дык у 1926 годзе там налічана было 29.000 стогадовых людзей, або 197 чалавек на мільён жыхароў. Паводле апошніх ведамасьцяў, у СССР налічваецца 7.000 чалавек, што маюць больш як 100 гадоў, з іх 3.000 мужчын і 4000 жанчын.

## З выдавецкае нівы.

**„Калосьсе“**. Беларускі літаратурна-навуковы часопіс. Кніжка 2. 1935. Год І. Вільня. Бел. друк. ім. Ф. Скарыны.

Часопіс выходзіць мае раз у тры месяцы. Кніжка 1-я была некалькі тыдняў у лютым месяцы канфіскована, але віленскі Акружны Суд канфіскацыі не зацьвярдзіў і кніжка вернена была выдаўцу: Беларускаму Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

„Калосьсе“ падпісана рэдакцыйнаю калегіяй з 5-цёх чалавек: М. Шкялёнак, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, Ст. Станкевіч і Я. Шутовіч—ён-жа і адказны рэдактар. Але, „дзе шмат нянек—там дзіця бяз носа“: рэдакцыя падае на вокладцы папраўку, прызнаючыся, што ў адным з *апавяданьняў* прапушчана цэлыя тры сказы ды цэлае слова ў адным... вершы.

Кніжка мае 136 бачын журнальнага фармату. Зьмест яе, як на квартальнік, вельмі ўбогі. Вершы Машары, Арсеневай, Ільяшэвіча, Бярозкі і Язэпа Пушчы (савецкі поэт) займаюць больш як цэлы друкарскі аркуш—іх набярэцца бачын з 17. Далей дробныя расказікі (як рэдакцыя заве іх — *апавяданьні*, хоць пара было-б ведаць паважанай рэд. калегіі, што беларус *расказвае*, а не *апавядае* ці, дакладней кажучы, *оповяда*). М. Дальны дзіўна неяк, зусім не-пабеларуску, назваў сваё „апавяданьне“: — „Сыпаліся вішнёвыя краскі“.

Кожнаму беларусу вядома, што ніякія краскі з вішняў (пладоў), або з вішнёвага дзерава сыпацца ніяк ня могуць, бо *краскі* растуць беспасярэдня з зямлі, а на вішнёвым дзераве, калі яно цьвіце, бывае *цьвет*, які, праўда, сыплецца пры адцьвітаньні вішні. Дзеля гэтага такія сказы ў канцы расказіка, як: „Сыпаліся краскі вішняў“, „Сыпаліся вішнёвыя краскі. Кружыліся“ (круціліся?), зьвіняць для простага беларускага вуха нечым незразумелым, не сваім. Сільны зьместам, рытмікай і нават формаю вершы Ільяшэвіча, без назову, які пачынаецца словамі: „Цягнікі і станцыі“... таксама зьдзівіць беларускага чытача наўрад ці зразумелымі словатворамі. „На шляхох—бярозы шэраньню *займляцца*, падаючай зоркай—блісьне *цімафор* (ці гэта мае быць *сэмафор?)*“.

Слабы і навуковы зьмест 2-е кніжкі „Калосься“. Д-р Ст. Грынкевіч коратка разважае над нашай нацыянальнай асаблівасьцю ў артыкуле сваім „З зацемак аб характары беларусаў“, ды д-р Я. Станкевіч стараецца вельмі сьлізкімі аргумэнтамі даказаць, што „асабовыя назовы па бацьку, як Антон Міхайлавіч, Сымон Ігнатавіч“ і г. д. чужыя для нас і не павінны ўжывацца. Аднак цікава, чаму гэткія назовы ўжываліся даўней, як гэта можна бачыць з некаторых актаў за літоўскі пэрыяд нашае гісторыі (напр. аб цывільных працэсах, ці ўмовах), выданых у свой час расейскаю Акадэміяй Навук. Д-р Станкевіч даказвае, што калі, напр., у Міхася Міхневіча бацька зваўся Васілём, дык Міхася гэтага трэба называць *Міхась Васілёнак Міхневіч*, а нежанатага, дык нават—*Міхневічык*. Таксама, калі, напр., Ганна мела бацьку Васіля, дык яна будзе,—кажа д-р Я. С., — *Ганна Васілішка*... Гэта хіба нешта таксама для нас чужое (у найлепшым выпадку шляхоцкае!) і наўрад ці яго хто будзе ўжываць.

Даволі цікавым для вясковага нашага чытача трэба лічыць артыкуль А. Клімовіча „Скасаваньне паншчыны на Беларусі“.

Рэфэрат Ад. Станкевіча, чытаны 8. XII. 1934 г. ў БІГіК аб нябожчыку праф. Б. Эпімах-Шыпіле дае магчыма поўнае апісаньне жыцьця і працы гэтага старога беларускага навукоўца.

Супрацоўнікаў тутэйшых „Калосьсе“ мае вельмі мала і дзеля больш паважнага разьмеру кніжкі перадрукоўвае творы савецкіх аўтараў (Язэп Пушча, Міхась Лынькоў).

Стыль кніжкі і карэктура яе выглядае даволі слаба. Для прыкладу возьмем з артыкулу д-ра Грынкевіча гэткі сказ:... *„тутака мы бачылі адну із способаў аналітычнага падыходу да праблемы нацыянальнага характару“*.

А ў слове „раскідаць“ і пад. чамусьці ўвесь час зьмягчаецца „с“—*раськідаць*...

Каб не падувала ад кніжкі голым мяшчанскім нацыяналізмам, дык можна было-б сказаць, што характарызуе яе простая ідэолёгічная бясхрыбетнасьць.

Ясна, што літэратурна-навуковы часопіс вельмі для нас патрэбны, але ён павінен быць запраўды літэратурна-навуковым. І таму трэба было-б каб рэдакцыйная калегія „Калосьсяў“ больш паважна аднясьлася да такога выдавецтва.

*Р.*

## Генэральны паход проціў францускага франка.

Апошнія падзеі ў Францыі не пакідаюць сумліву, што міжнародная спэкуляцыя прыступіла да спробы зламаньня галоўнай цьвярдыні залатога блёку — францускі франк.

Атака пачалася ў канцы мін. месяца: на парыскім валютным рынку раптоўна пачала падаць дзяржаўная рэнта. Прычынай гэтага паслужылі чуткі, быццам францускі ўрад пастанавіў абясцэніць францускі франк. Дзякуючы гэтаму, стварылася вельмі паважнае і небясьпечнае для гаспадарчага жыцьця Францыі палажэньне.

Прэм'ер Фляндэн склікаў паседжаньне фінансавай камісіі палаты дэпутатаў, на якім заявіў, што будзе дамагацца для свайго габінэту шырокіх паўнамоцтваў, неабходных для спыненьня пачаўшайся спэкуляцыі на франке.

У сувязі з гэтым адбылася 31 траўня г. г. сэсія палаты дэпутатаў, дзеля разгляду законапроекту аб пашыраных паўнамоцтвах прэм'ер-міністра Фляндэна. Дыскусіі закончыліся а 2 гадз. ноччу галасаваньнем, у якім большасьць высказалася проціў разгляданага законапроекту, выражаючы гэтым самым недавер ураду.

Ясна, што габінэт Фляндэна падаўся ў адстаўку. Прэзыдэнт Рэспублікі даручыў старшыні палаты дэпутатаў Буіссону зарганізаваць новы габінэт. Палітычныя колы пераконаны, што прэм'ер Буіссон атрымае надзвычайныя паўнамоцтвы і патрапіць пазбавіць Францыю ад „прыемнасьцяў“ дэвальвацыі.

1 чэрвеня Ф. Буіссон канчальна сфармаваў габінэт, у якім тэку міністра фінансаў атрымаў Кайо. На пытаньні некаторых сэнатараў апошні заявіў, што ніколі не дапусьціць да абясцэнкі франка і як толькі ўдасца яму навясьці парадак у фінансавым палажэньні Францыі, падасца адразу ў адстаўку.

Пакуль што гэта толькі словы, як там будзе запраўды — ня ведама.

Як бачым валютна-фінансавы крызыс ператварыўся ў палітычны. Выкарыстаны мамэнт проціў Фляндэна, які павінен быў адыйсьці. Факт гэты яскрава пацьвярджае слушнасьць тых, хто няраз падчырківаў тую вялікую небясьпеку, якую хавае ў сабе нястойкае палажэньне міжнароднага валютнага рынку. І ўсё больш дасьпявае пытаньне аб неабходнасьці міжнароднага супрацоўніцтва для ліквідацыі гэтага палажэньня, якое сталася прост немагчымым.

## Хітрае пытаньне нямецкага пасла ў Лёндане.

Нямецкі пасол Геш, як паведамляюць, адведаў міністра зам. справаў Саймона, якому перадаў засьцярогі Нямеччыны па поваду франка-савецкага дагавору, як супярэчнага з Лёкарнскім пактам.

Паводле слоў „Дэйлі Тэлеграфу“, нямецкі пасол паставіў пры гэтым наступнае пытаньне. Калі між Нямеччынай і Сав. Расеяй выбухне вайна, а Францыя прыйдзе з дапамогай Саветам, ці павінны тагды іншыя дзяржавы, падпісаўшыя Лёкарнскі пакт, у тым ліку і Англія, прыйсьці згодна з Лёкарнскімі пастановамі на помач Нямеччыне, якая акажацца прадметам нападу з боку Францыі, падпісаўшай гэты-ж пакт?

Ясна, што выразнага адказу Нямеччына не атрымала. Ангельскія, таксама як і францускія праўнікі агранічылісь тым, што француска-савецкі дагавор прыраўнялі да француска-польскага, які быў падпісаны адначасна з Лёкарнскім пактам.

## Сэкрэтны японска-нямецкі дагавор.

„Дэйлі Экпрэсс“ цьвердзіць, што быццам у апошніх днях Японія і Нямеччына заключылі сэкрэтны дагавор, які прадбачыць блізкае супрацоўніцтва абедзьвёх дзяржаваў у галіне ваеннага будаўніцтва, тэхнікі і замены афіцэрамі. Дагавор скірованы проціў СССР.

## Зблізкэньне Італіі з Нямеччынай?

У сувязі з нападамі італьянскай газэты „Тэвэрэ“ на міністра Ідэна, ангельскі пасол у Рыме звярнуўся да італьянскага ўраду з пратэстам.

Корэспондэнт „Таймса“ паведамляе з Рыму, што ў Італіі пануе варожы настрой у адносінах да Англіі, выкліканы пазыцыяй, якую Брытанія заняла ў Жэнэве ў справе італьянска-абісынскага канфлікту. Думаюць, што Італія будзе імкнуцца палепшыць адносіны з Нямеччынай. Шаг Муссоліні, які адлажыў на неакрэсьлены час склікаьне Дунайскай конфэрэнцыі ў Рыме і пачаў бэспасярэднія перагаворы з Гітлерам, як быццам пацьвярджаюць гэтыя дагадкі.

# З правінцыі.

## Тыф у Вішнеўскай вол., Вілейскага пав.

Наш корэспондэнт паведамляе, што ў вёсках: Каракулічы, Астраўляны, Іванкі і іншых, Вішнеўскае воласьці пануе тыф. Памёрла каля 10 асоб. Сяляне жаляцца на голад, які і выклікаў гэтую хваробу. У вёсках страшэнная галіта і недастатак ува ўсім.

* * *

Мне хацелася-б бачыць яе
У сталёвую зброю закутай,
Няпрыступнаю, грознай, магутнай,
Моцна вяжучай думы мае.

Цьвёрда кутая з бронзы далонь
Стальлю цемру вякоў прабівае;
Сэрца палкае—зьнічаў агонь
Пад сталёвыя латы хавае.

Вецер вольную песьню пяе
Ў шапцы-шоламе з срэбра адлітай,
Грознай славай легенды спавітай
Мне хацелася-б бачыць яе.

Вобраз гэты—нязьдзейсьнены сон,
Але я ня сумую, ня плачу;
Веру моцна, што збудзецца ён;
Я хачу, я—магу—я пабачу.

*Г—ч.*

## В. Рачканы, Русінавіцкае вол.

Вёска наша не малая, бо мае каля 140 двароў. Усе беларусы і жывуць між сабой згодна. Есьць у нас школа 2-й ступені, у якой было сьпярша 5, пасьля 4, а цяпер 3 вучыцеля. Ходзяць у гэтую школу дзеці і з другіх вёсак. Ня гледзячы на ўсякія звальненьні набярэцца каля 250 дзяцей. Школа была дзьвёхмоўная, але, дзякуючы інспэктару і нясьведамасьці сялян, ператварылася ізноў у чыста польскую. У 1931 годзе заложылі мы коопэратыву пад назовам „Рунь“. Мае цяпер каля 100 пайшчыкаў і вельмі добра проспэруе. Належыць яна да Саюзу Спажывецкіх Коопэратываў Польшчы і бярэ 50% усіх закупных тавараў з аддзелу гэтага-ж Саюзу ў Баранавічах. Прыватны гандляр што раз больш слабее, і даўно-б ужо збанкрутаваў, каб не патрымоўвалі яго частка нясьведамых сялян нашае вёскі і, што найдзіўней, некаторыя вучыцялі нашае школы. Рада і Урад коопэратывы пастанавілі правесьці шырокую прапаганду коопэрацыі, вызначаючы на 30 верасьня г.г. „дзень сьвята коопэрацыі“. У гэтым дню мае адбыцца прадстаўленьне, на якім адыграны будуць п'есы: „Для бліжніх“ і „Мікітаў лапаць“.

Кіраўнік школы п. Куклеўскі хацеў перашкодзіць гэтаму і як старшыня пажарнай стражы забараніў сваім падуладным прыймаць удзел у пастаноўцы гэтых п'есак. Стражакі аднак запратэставалі, выясьняючы кіраўніку школы, што ён ня толькі не павінен перашкаджаць, але сам павінен належыць да коопэратывы і прыймаць удзел у працы для яе карысьці.

*В. Ю.*

Пісьмо гэта, як вельмі характэрнае, зьмяшчаем цалком. Варта каб школьныя ўлады зьвярнулі больш увагі на тое, як некаторыя з „перадавога элемэнту“ на вёсцы — польскага вучыцельства выпаўняюць сваю грамадзка-выхаваўчую ролю.

*Рэдакцыя.*

## З Віл. Бел. Гімназіі.

— У суботу 1 чэрвеня скончыліся матуральныя экзамены, да каторых было дапушчана 30 асоб. Здалі экзамен наступныя вучні: Астапчык Аўгеня, Буцка Сяргей, Ермалаева Варвара, Еўтухоўская Зіна, Засім Александр, Кавэліч Міхал, Карпюк Уладзімір, Кажанаў Сяргей, Клім Уладзімір, Кульчыцкая Ніна, Лазаровіч Аркадзь, Лапіцкі Вадзім, Матэйчук Мікалай, Мядоўскі Станіслаў, Найдзюк Часлаў, Паўльскі Антон, Русецкі Сьцяпан, Семеняка Барыс, Чатырка Ірына, Шэшка Кастусь, Шляхтун Аляксандар, Шышка Натальля і Ярошка Іван.

**Прысылайце падпіску на газэту „РОДНЫ КРАЙ“.**

ВІЛЕНСКАЯ

## Беларуская Дзяржаўная Гімназія

**прыймае заявы для паступленьня ўва ўсе клясы апрача восьмай.**

**У I клясу** прыймаюцца дзеці (хлапцы і дзяўчаты) якія: 1) будуць мець на 1 верасьня 1935 г. ня менш 12 і ня больш 16 гадоў і 2) скончылі 6 (шэсьць) ці 7 (сем) аддзелаў пачаткавай школы.

Тыя, што прадставяць пасьведчаньні аб скончэньні 6 ці 7 аддзелаў пачаткавае школы, здаюць пры паступленьні ў I-ю (былую III) клясу толькі паверачны экзамен з польскае і беларускае моваў арытмэтыкі і географіі. Кандыдаты, што ня маюць успомненых пасьведчаньняў пачаткавае школы здаюць поўны экзамен у абыйме 6-ці аддзелаў пачаткавае школы.

**У II-ю клясу** прыймаюцца дзеці па экзамену з усіх прадметаў у абыйме праграмы I кл. гімназіі, калі на 1 верасьня 1935 г. будуць мець ня менш 13 і ня больш 16 гадоў.

**У наступныя клясы** трэба здаць адпаведны экзамен па праграме дзяржаўных гімназіяў ды мець век у наступных граніцах: у III кл. ад 14 да 17 г., у VI — ад 15 да 18 г. і ў VII — ад 16 да 19 г.

Экзамены ўва ўсе клясы пачнуцца: вясною **15 чэрвеня**, а ў восені — **5-га верасьня а 8 г. раніцы**.

Заявы прыймаюцца: вясною да **10 чэрвеня**, ў восені да **25 жніўня.**

Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку, 2) школьнае пасьведчаньне, 3) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы, 4) дэкля́рацыю, што кандыдат (ка) — беларус (ка) і перасьлаць на Р. К. О. (блянкет можна купіць на кожнай пошце) 10 зл. за экзамен па наступнаму адрасу: „Filija białoruska Państw. Gimn. im. J. Słowackiego w Wilnie. Konto P. K. O. № 33.219.

Пры гімназіі ёсьць

**хлапцоўскі і дзявочы інтэрнаты.**

Утрыманьне ў інтэрнатах (кватэра, апал, сьвятло, абед і дагляд — бяз сьнеданьняў і вячэраў—) каштуе 15 злот. у месяц. На сьнеданьне і вячэру даецца толькі кава, а хлеб, сала ці масла і цукар трэба мець сваё.

Плата за навуку ў паўгодзьдзе выносіць 110 зл. Бедныя вучні (цы), калі будуць мець за I паўгодзьдзе добрыя пасьпехі, могуць на 2-ія паўгодкі атрымаць зьніжку платы. Для вельмі бедных, а здольных вучняў і вучаніцаў, Беларускае Дабрадзейнае Т-ва і Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын вызначаюць стыпэндыі.

Праграму з беларускае мовы ўва ўсе клясы гімназіі можна выпісаць з Беларускай Кнігарні У. Манкевіча ў Вільні, ul. Ostrobramska 1, паслаўшы паштовую марку на перасылку.

Адрас Гімназіі: **Wilno, Ostrobramska 9.**


# Праўны куток.

**П. Ш.** *Дзісьненшчына.* У Вас 12 дзесяцін зямлі, з якіх 8 Вы атрымалі ў спадчыне пасьля бацькі, а 4 дакупілі самі. Маеце 2-х сыноў. Пытаецеся, ці можаце аднаму сыну прадаць ці запісаць 10 дзесяцін, а другому 2 і ці існуе якое права, агранічаючае распараджэньне зямлёю, атрыманае у спадчыне?

У адказ падаем наступнае: прадаць або запісаць у тэстаманце аднаму сыну 10 дзесяцін, а другому 2 можаце. Агранічэньняў у распараджэньні купленай зямлёю няма і ніколі ня было. Што датычыць зямлі, атрыманай у спадчыне, то пэўныя агранічэньні існавалі, але закон з 19 сакавіка 1934 г. таксама іх скасаваў. Закон гэты вельмі важны, бо анулюе ён адносныя артыкулы расейскага X тому Зводу Законаў, які дзеіць на нашых землях.

**Н. М.** *з Горадні.* У адказ на Ваша пісьмо падаем наступнае: калі факты паданыя Вамі згодныя з праўдаю, то жалабу ў суд падавайце, справу заўсёды выйграеце. Закон прадбачыць, што бацька абавязаны, у меру сваёй магчымасьці, утрымоўваць незаконнага дзіцяці аж да яго паўналетнасьці. Пры вызначэньні алімэнтаў суд прыймае пад увагу матэр'яльны стан бацькі і жыцьцёвы ровень маткі. Матка таксама павінна прыняць удзел у выдатках па утрыманьні дзіцяці адпаведна да сваіх матэр'яльных сродкаў, якія бяруцца пад увагу пры вызначэньні алімэнтаў. За мінулы час бацька абавязаны плаціць алімэнты толькі за год да мамэнту зложэньня ў суд жалабы. Матка пасьля сьмерці незаконнага дзіцяці мае права дамагацца ад бацькі звароту коштаў утрыманьня найбольш за адзін год, лічачы назад ад дня падачы жалабы ў Суд. Абавязак маткі і бацькі ўтрымоўваньня незаконнага дзіцяці гасьне і перад паўналетнасьцю, прыкладам, калі незаконная дочка выходзіць замуж, або калі дзіця мае магчымасьць самастойна сябе ўтрымаць.

**Александру М.** *з Горадзеншчыны.* Вы пішаце, што ад 1925 г. арэндуеце 5 дзесяцін зямлі, на якой у 1927 годзе пабудавалі дом і гаспадарчыя будынкі. Тэрмін вашага кантракту скончыўся ў 1930 г. і праз увесь 1934 год плацілі Вы арэнду без кантракту. Цяпер-жа ўласьнік гэтае зямлі кантракту прадоўжыць ня хоча і пагражае высяленьнем. Пытаецеся, што рабіць і ці земляўласьнік мае права Вас высяліць?

Вось-жа, у 1933 годзе выйшаў закон, які пастанаўляе, што земляўласьнікі ня могуць высяляць перад 1 красавіком 1938 году тых арэндатараў, якія на арэндных грунтох пабудавалі перад 1 красавіком 1930 г. будынкі. Ня могуць высяляцца арэндатары (з грунтаў, занятых пад будынкі) нават і ў тым прыпадку, калі кантракт між арэндатарам і земляўласьнікам пагас, г. зн. страціў сваю правамоцнасьць. Закон гэты дзеіць на абшары тых вёсак і асад, якія знаходзяцца ў раёнах апэляцыйных судоў: віленскага, варшаўскага і люблінскага.

Як самі бачыце, перад 1.IV.1938 г. земляўласьнік высяліць Вас ня можа, але Вы павінны акуратна плаціць яму арэндную плату, якая была вызначана ў кантракце.

**Пашырайце нашу газэту.**

# Гаспадарчы аддзел.

**Дбайма аб пасьвішчах.**

Нашыя пасьвішчы вельмі занядбаныя. Фактычна пасьвішчаў мы ня маем, а звычайныя выганы, на якіх жывёла карыстаецца рухам, паветрам, сонцам і г. д., але толькі не травою. Сякой-такой травою пакрыты яны толькі ў пачатку вясны ў працягу 2—3 тыдняў, пакуль яе жывёла зусім ня вытапчэ, бо пасьля такога прэса трава адрастае вельмі памалу. Пакідаць пасьвішчы ў такіх варунках проста немагчыма. Трэба нарэшце навучыцца разумна выкарыстоўваць іх.

Найвялікшая наша віна ляжыць у тым, што ўсю сваю жывёлу пасьвім мы адначасна і адразу на ўсім прасторы. Апрача таго і колькасьць жывёлы пераважна бывае ў нас за вялікая ў параўнаньні з абшарам пасьвішча.

Нічога дзіўнага, што жывёла ў нашых вёсках пакідае амаль заўсёды пасьвішча на палову галодная.

Вось жа, каб нашыя пасьвішчы былі нешта вартыя, каб на іх жывёла знаходзіла для сябе пожыў, —трэба іх падзяліць на парцэлі і на кожнай па чарзе пасьвіць жывёлу ў працягу 1—2 тыдняў, пры чым у першыя дні павінны пасьвіцца каровы, пасьля коні і нарэшце авечкі. Пасьля 4—6 тыдняў канчаецца выпас апошняе парцэлі і жывёла пераганяецца на першую.

На кожнай парцэлі, пасьля перагону жывёлы з яе на наступную, трэба зраўняць куп'е, раўнамерна раскінуць астаўшыйся кал, а самую парцэлю вострымі боранамі збаранаваць. Апрача таго трэба памятаць яшчэ і аб тым, што пасьвішчы вельмі шкодзіць тое, калі за рана вясною пачынаюць і за позна восеньню канчаюць пасьвіць на ім жывёлу. Таксама нельга пушчаць жывёлу на сільна размокшае пасьвішча пасьля дажджоў.

**Трэба змагацца са шкоднікамі саду.**

У сучасным моманце існуе шмат хімічных сродкаў, пры помачы каторых можна з вялікім пасьпехам бароцца з рознымі шкоднікамі саду.

Найлепшы хімічны сродак супроць насякомых гэта парыская зелень, росчынам якое апрысківаюцца нападзеныя дрэвы, а для барацьбы з хваробамі, асабліва з пархамі ці расою, дзякуючы якой на яблыках і грушах астаюцца чорныя плямы, — бардоская цеч.

Аднак ня гледзячы на тое, што барацьба хімічнымі сродкамі са шкоднікамі саду дае вельмі добрыя вынікі, вёска наша амаль што зусім імі не карыстаецца. Чаму?—бо каштуюць яны грошы і каб карыстацца гэтымі сродкамі трэба мець спэцыяльную помку, якая таксама даволі каштоўная. Варта ўсёж-такі знайсьці на гэта нейкую раду. На нашу думку сяляне аднае ці некалькі блізкіх вёсак павінны зложыцца і купіць такую помку на супалку.

Калі-б аднак матэр'яльны стан цалком выключаў магчымасьць вясьці барацьбу са шкоднікамі хімічнымі сродкамі, ўсёроўна ня можна апушчаць рук. Трэба тагды барацьбу гэтую вясьці хаця-б самымі простымі спосабамі.

У цяперашні час у садзе шмат шкоды прыносяць маленькія жучкі, т. зв. даўганосікі. Барацьбу з імі можна вясьціс наступна: раніцаю або ўвечары, калі гэтыя жучкі найменш рухлівыя, трэба страсаць іх з дрэваў на падасланыя пасьцілкі і зараз-жа нішчыць. Таксама трэба зрываць і нішчыць лісьця, апутаныя павучынай. Калі зьявяцца гусеніцы шоўкапрада-калечніка трэба іх зьбіраць або заліваць іх гнёзды росчынам шэрага мыла; можна таксама нішчыць гэныя гусеніцы спаліваючы іх паходняй, напоўненаю газаю ці сьпіртам.

**Дагляд за карм. буракамі.**

Кармавыя буракі вымагаюць руплівага дагляду. Даглядаць трэба іх адразу, як толькі яны ўзыйдуць. Часта бывае, што перад усходам буракоў паяўляецца на глебе скарынка або шмат ліхазельля. Скарынку трэба адразу зламаць персьцянёвымі валкамі або лёгкімі боранамі, а ліхазельле нішчыць матыкаваньнем. У апошнім прыпадку часта перашкаджае ў працы тое, што няведама дзе знаходзяцца радкі буракоў, а дзе міжрадныя прасторы. Каб пазбыцца гэтага клопату, трэба разам з буракамі ў радкох пасеяць крыху аўсу, які хутка расьце і гэтым самым акрэсьляе месца радкоў. Праз нейкі час, калі зямля між радкамі добра ўложыцца, трэба яе матыкуючы ўзварушыць другі раз. Матыкаваць можна звычайнаю матыкаю, або спэцыяльнай ручной ці коннай, т. зв. *палольнікам*, які вельмі аблягчае працу.

Калі буракі падрастуць настолькі, што першыя іх два лістка зусім разаўюцца, а другія два толькі што пакажуцца, тады трэба прыступіць да прарыўкі буракоў. Адступы ў буракоў пасьля прарыўкі павінны быць ад 5 да 7 вяршкоў, пры чым на горшай глебе адступы трэба рабіць меншыя, на лепшай—большыя.

Працу пры прарываньні можна сабе значна аблягчыць, калі перад гэтым азначым матыкаю на радкох патрэбныя адступы. Зразумела, што вырываюцца самыя слабыя расьлінкі, а пакідаюцца самыя найлепшыя. Зямлю навакол буракоў, якія асталіся пасьля прарыўкі, трэба добра абціснуць; часам нават вельмі карысна прыкатаць поле валкам.

Тыя месцы ў радкох, якія з тэй ці іншай прычыны засталіся пустымі, трэба засадзіць вырванымі буракамі або рассадай бручкі.

Праз некаторы час пасьля прарываньня поле матыкуецца трэці раз. Далей буракі звычайна хутка растуць і закрываюць сабою міжрадныя прасторы так, што далейшая матыкаваньне становіцца непатрэбным.

Апрача матыкаваньня часам практыкуецца яшчэ і асыпаньне буракоў, але гэта толькі пры спэцыяльных сартох, у якіх карнявішча высака выстае з зямлі, пры чым, нават і ў гэтых прыпадках, у сухія гады асыпаньня рабіць нельга.

Кармавыя буракі можна ня толькі сеяць, але і садзіць рассадай. Садзіць рассадай лепш тыя сарты, корань якіх мае клубавідную форму, бо тагды прыпадковае пашкоджаньне яго не адаб'ецца так моцна на іх росьце. На цяжкіх глiністых глебах найлепей садзіць рассадай, бо прарастаючым расьлінкам цяжка выбрацца на паверхню зямлі. Рассада буракоў вырошчваецца на асобныхградках, прыкладам, як рассада капусты.

# Ад Рэдакцыі.

Прыймаючы пад увагу тое, што на вёсцы цяпер вельмі цяжка з грашыма, Рэдакцыя нашае газэты абнізіла цану асобнага нумару **да 10 гр.** у розьнічнай прадажы, зьніжаючы адначасна падпіску гадавую да **2 зл. 50 гр.,** паўгадавую—**1 зл. 35 гр.,** за тры месяцы — **75 гр.,** месячную да **30 гр.**

Пры гэтым Рэдакцыя перасьцерагае, што ўсім падпісчыкам якія ў працягу **чэрвеня г. г.** не заплацяць належных грошай за газэту, высылка газэты будзе спынена **ад 1 ліпня 1935 году.**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.